Нарадзіўся Сяргей Паўзнік у 1942 годзе на Міёршчыне.

Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча, працаваў фельчарам. Цяпер вучыцца на факультэце журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча.

Вершы Сяргея Панізніка друкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. «Кастры Купалля» — першая кніжка маладога паэта.

**Сяргей Панізнік**

# Кастры Купалля

*Л і р ы к а*

ВЫДАВЕЦТВА „БЕЛАРУСЬ"
МІНСК 1967

Зборнік адрэдагаваў на грамадскіх пачатках
паэт РЫГОР БАРАДУЛІН.
Мастак В. БАСАЛЫГА

А ёсць у цябе
канверты.
Без маркі,
без подпісу?
Дай адзін мне,
блакітны.
Напішу на ім адрас:
«Беларусь.
У краіну сінечы...»

* * *

Мае зямляне!
З вамі я жыву
на ласкавай і ветлівай планеце.
І тут я патаемна
на прыкмеце

трымаю для паэзіі паляну.
І з ёй адно імя
даўно нашу я,
і з вернасцю удзячнага нашчадка
я з ёй дзялюся цёплымі дажджамі
і вышытай узорамі кашуляй.

Я той паляны
да канца жыхар.
Адданасцю такою ганаруся.
Надарыцца пабыць у Беларусі —
у госці запрашаю вас,
зямляне.

* * *

Бераг мудрай,
таемнай зямлі,
ад якога
ідуць караблі...
Я прымаю яе абшар:
ні граніц —
толькі плынь,
толькі рух...
Уразаецца сонечны круг
у зямны пераспелены шар.
І становіцца бераг зямлі
маяком і развілкай шляхоў.
І зялёныя
йдуць караблі
на сузор'і шчаслівых вякоў.

* * *

На Беларусі
сінеюць азёры,
над Беларуссю —
сінія зоры.
Вечар агністы,
ў паўнеба світанне.
Тут з маёй доляй вячыстай
спатканне.
Над Беларуссю —
срэбраны ветах,
і Беларусь мая —
папараць-кветка.
Гэта сыны ёй
наканавалі,
тыя,
што маці сваю шанавалі.
Каб не згасала імя дарагое,
азёрнае,
баравое,
каб з нашых песень
шэрыя гусі
неслі у выраі
грай Беларусі.

* * *

Што ёсць, скажы,
ў тваіх лугах і пушчах,
чаго спрадвек шукалі песняры
і пранасілі па мастах рыпучых,
калі ў Купалле ладзілі кастры?

Ад песень
душы гордыя шчырэлі,
мой край,
тваёю сілаю жылі.
І летапісы нашы не старэлі,
як не старэла праўда на зямлі.
І сёння
ў травах над чмялінай вузай
начуюць гукі,
клічуць песняроў,
каб прагна прытулілі іх да вуснаў,
і,
як у казцы,
ажывілі зноў.

* * *

*Песня Украіне*

Калісьці паміж двух шнуроў пшаніцы
спынілі двое на мяжы плугі.
І з іх адзін назваўся украінцам,
і беларусам вызнаўся другі.

Абое селі і на родных мовах
паміж сабой гамонку павялі.
І стала іх ратайская размова
найпершай дыпламатыяй зямлі.
Сусед суседу верыў і ахвоча
не раз дапамагаў у жорсткі век.

Аб Украіне
марыць Багдановіч,
на Беларусі Камянер жыве.
Тут Сеч бунтарнай еднасцю апаліць
і ўскалыхне, як вольны вецер плёс.
Здаецца, лёс трывожнага Купалы
згадаў Тараса неспакойны лёс.

Я сінявокім краем ганаруся,
куды б вандроўны вецер ні паслаў.
Не жыў бы ў сэрцы сум па Беларусі —
я Украіну б роднаю назваў.

* * *

А ў гародзе вішня
з-пад кораня выйшла.
А за тынам сліва
така нешчаслiва.

І сумуюць вецці,
як праходзіць вецер,
і, як ружы, ловяць
лівень ліловы.

Ля іх плеч дрыготкіх
вечары сваволяць...
Толькі — ціха! Крокі
росамі звоняць...

* * *

За Лахвою белыя чаромхі
пеняць бераг квеценню густой.
Над Лахвою шызыя чароты
гутараць з вясенняю вадой.

І нясуць прысадамі ад плёсу
салаўі рачных лілеяў звон.
Да вады дзяўчаты, як бярозкі,
вечарам збягаюць пад адхон.

Зноў Лахва аздоблена вянкамі,
што бялеюць, як апошні снег.
Можа стане, што й майму чаканню
прыплыве адзін з іх па вясне.

* * *

Чапялінка — наша даўняе імя.
Гэтак продкі называлі немаўля.
І калі дзяўчынка бегла па расе:
«Чапялінка!» — яе клікалі усе.

Чапялінка — косы русыя,
Чапялінка — беларусачка.
Прарасталі чаратамі берагі,
Ў небе жоравы адлічвалі кругі.
І калі цымбалы ладзілі ігру:

«Чапялінка!» — яе клікалі у круг.
На Купалле ў неба
вогнішчам шугаць,
на Купалле —
з хлопцам папараць шукаць.

Кветка шчасця заалела, што касцёр:
«Чапялінка!» — ты маё жыццё!
Чапялінка — косы русыя,
Чапялінка — беларусачка.
— Ча-пя-лі-нач-ка!..

Продкі мае —
крывічы,
камяні
асцярожна ў далоні бралі
клалі першыя гарады.
На веча
майстроў склікалі,
каб паслаць Скарыну
роднаю моваю
першую кніжку стварыці.
У навалу —
браты паўставалі.
Скакалі шалёныя коні,
з чыстага срэбра мячы
сінь напалам калолі —
сцякала яна палянамі...
Ці не таму каля гулкіх бароў
столькі азёр сінее...
Як поўныя кублы —
стагоддзі.
Зчэрпні па гарцу з кожнага —
прыпамінамі свет напоўніцца...

* * *

Гары,
мой Ліпень,
маркімі мазёнкаміі
Ты даланістай папараццю выткан.
У ноч Жыцця
зеленатраўем зёлкавым
на твой
спрадвечны бераг выйду.
Разводзілі кастры Купалля продкі
і песні палымлівыя спявалі,
сваю зямлю вякамі услаўлялі
і не хадзілі ад яе упрочкі.
Збяру я неастылае вуголле —
і займецца наноў
касцёр струмлівы!
Я ведаю: кастру майму
ніколі
не згаснуць на зямлі
шчаслівай.

* * *

Мяне адкрывалі моры,
мяне адкрывалі горы,
і гора —
цяжкай навалай —
таксама мяне адкрывала.
І я,
напалову зведаны,
праходзіў маўклівым сведкам.
Я добра не вызнаў шлях,
яшчэ не абраў
каляіны,
бо ведаў —
яшчэ зямля
сына
адкрыць павінна.
Каб з новай патрэбай жыць
і шчыраму сэрцу парадзіць
самога сябе адкрыць
веку,
Радзіме,
праўдзе.

* * *

Р. Б.

Плылі хлапцы, а іх кашулі
напяў Наддзвінні верхавей.
У сінізне ракі пажухлі
праменні з-пад вячэрніх вей.

І толькі песня абдымала
і раздымала берагі.
Плылі ганкі —
і ночы мала
запеў закончыць дарагі.

Раньком латгальскія казулі
сцюдзёнку ў Даўгаве пілі,
а плёсам —
белыя кашулі
у песні новыя плылі,

* * *

Па-за ціхай грамадой лясоў,
за плячыма курганоў звячэлых —
вогнішча вясёлае,
вячэра
патаемна ціхіх галасоў.
Мне б Наддзвінні бераг
абдымаць,
захлынацца пахам травастою.,.
Хіба я ў людзей прашу не тое —
край бацькоў любіць і шанаваць?..
І цяпер,
наколькі маю сіл,
берагу цябе і векавечу,
я з любых краёў цябе прывечу,
ўсё аддам,
ты толькі папрасі...

* * *

Землякам-беларусам, якія ў змрочныя
часы царызму ў пошуках кавалка хлеба
вымушаны былі пакінуць Радзіму.

І
Беларусы...
Землямі чужымі
разышліся
бацькаўшчыну сніць.
І галовы многія злажылі,
не змаглі матулю прытуліць.

А яна,
пакінутая дзецьмі,
не стагнала,
тоячы адчай.
Проста ў занядбаным полі дзесьці
заярыў асот і малачай.
Са зламанага калка старога
адрасла жульвіца на лугу.

А вятры
нудзіліся ў чаротах,
вырaі
прыносілі тугу.
Ёй дзяцей сваіх чакаць вякамі.
У Радзімы —
матчына любоў.
І вясною кнігаўкай гукае
і шукае зблудлівых сыноў...

II
— Дай, зямелька-чужаніца,
мне ад ветру затуліцца!
Маўчыць зямля.
— Дай, зямелька-чужаніца,
перасмягламу напіцца!
Гудзе зямля.
— Дай, зямелька-чужаніца,
чорнай лусце пакланіцца!
Грыміць зямля.
— Дай, зямелька-чужаніца,
за Радзіму памаліцца!
Не стрывала зямля:
— Злыя ветры
на чужыне,
смага паліць
на чужыне,
хлеб каменны
на чужыне,
бог не ўчуе
на чужыне...
Родны край
шукай!

* * *
Звон расы,
і ветах,
і дарога.
Побач спяць
старыя хутары.
І мая сядзіба сніць старое
на бацькоўскім сцішаным двары.
Паварот —
і выгукнуў вітанне.
Клён мне падае
сваю руку...
Мне цяпер,
што першаму шпаку
перад першым з выраю світаннем.

* * *

Яе ў пячурцы маці грэла,
хавала па святочных днях:
каб настаялася гарэлка,
збурэлая,
на каранях.
Яе наўрад і брыгадзіру
трапляўся келішак які.
У пляшцы водары хадзілі
ад валяр'янавай ракі.
Яна сталела —
не старэла,
мацнела
з каранёў зямлі.
Глынеш глыток —
агнём гарэла,
і як бальзам
яе пілі.
Так і ўва мне
зямлі суцэлле
расходзіцца у весніх днях,
як тое матчынае зелле,
настоенае на каранях.

* * *

Вечар смачна пахне сырадоем,
прыазер'ем,
борам недалёкім.
Б'ецца ён у звонкія даёнкі,
ўспенены рамонкавым настоем.
У загонах дрэмлецца каровам
па калена ў тумановай пары,
праплывуць яны,
нібы паромы,
па спатнелым ранішнім папары.

* * *

Мне барамі шумяць гады.
...Я сягоння такі малады,
што мне цяж ка на ўсю вышыню
утаіць, як і вам, цішыню.

Сэрца гулкага слухаю стук,
як і вы, я штодня расту.
Над барамі ляцяць жураўлі.
І звіняць, і сталеюць камлі,
і падзяку прыносяць зямлі,
той зямлі, на якой узраслі.
Я хачу навучыцца у вас
неспакоем запоўніць свой час,
прамізной карабельнай сасны
шлях адмераць для новай вясны,
важка ў зруб малады для вякоў
легчы гулкім, трывалым вянком.

Упершыню бяссонніца змагла.
Пакутую пад зумкат камарыны.
Ужо дасвецце ночку згаварыла
і, шэрую,
ў нябытак павяла.
І я перад аголенай ціх вой
стаіўся,
быццам сведка недарэчны.
Чакаю —
загрыміць прамень сустрэчны,
скіраваны у недабудак мой.
І слухае няўрымслівасць святая,
як у мяне
бярэцца на світанне.

* * *

Лісіца, лісіца...
Зразумела,
ты не ведаеш свайго імя,
такога ляснога,
паважнага.
Лес.
Зямля лясіцца.
Гаспадыня лесу —
лісіца.
Сама па сабе —
невядомая.
І толькі вакол яе логава,
вакол лесу
у паляўнічых ботах
сноўдаецца яе імя.

* * *

Слова «маці» паходзіць ад
лацінскага «мамма».

І можа, бяроза —
таксама —
мама.
Яна ж паіла мяне малога
сваім малаком —
бярозавікам.
Я памятаю,
як цягнуў губамі
сок ахмялелай зямлі.
А потым бяроза спявала,
гукала вясну мне
і пасылала ў дарогу
два словы,
два матчыных словы:
«Не забывай!»

* * *

Давайце развядзём сасновы бор!
Нічога,
          што пясчаная зямля,—
хай сосны соні дастаюць з глыбінь.
І тут аселяцца чабор і верас,
а сосны падрастуць —
                              баравікі
укленчаць у малітве лесавой.
Па-свойму
                    кожны будзе услаўляць
той край,
          што даў ім сілу і нязломнасць.
Бо вечная карміцелька — зямля
гадуе іх і корміць з малалецтва...

Давайце развядзём сасновы бор!

* * *

А прырэчча
                    шалела ліўнямі,
захлыналіся берагі.
Нават яблыні сарамлівыя
з саду кінуліся ў лугі.

Завязалі на памяць завязь,
і дасвеццем з-за ціхіх хат
наваколлю ўсяму на зайздрасць
зноў вярталіся ў родны сад.

Жнівень першы кісліцы зведаў,
ім падставіў сваё плячо.
Гойдаў вецер
                    у вечар светлы
зелянчо...

Сад калыша
                    зямля азяблая,
нецярпліва сукі трасе.
Ноч...
Чаканне...
Крамяны яблык
перакульваецца ў расе...

* * *

Мне не сумна, што ідуць дажджы.
У маіх дажджоў — свая вясёласць.
Мне б ісці цяпер па сціхлых сёлах,
апускаць у рэкі ледашы.

Адкупала лета свае дні,
Асмуглелі дзікіх выспаў грудзі,
І дажджы туляюцца, як людзі
пасля хмельнай, удалой гульні.
Хай не ціхне навальнічны грай.
Я прымаю
перуноў
марзянку.
Будзе зноў грымлівая гулянка
з тостамі
за ціха-белы край.

* * *

На гарышчы
сена непрымятае.
На гарышчы
сёння пахне мятаю.
Тут і май
з зялёнымі маланкамі,
тут і чэрвень
з душнымі дзялянкамі...
І гусцее цішыня набраклая,
бо нядаўна з адзіноты плакала,
а цяпер, журботная,
мясцюрыцца
і шчакой
бліжэй да сена туліцца.
Засынае
сумнай сіратой...
Хай ёй сніцца цёплы сырадой.

* * *

Навагодняя тройка!
Тройка коней імклівых.
Колькі едзе шчаслівых
у сівыя снягі!
І цвіргочуць дарогі
у сцюдзёным паветры,
і мне цяжка паверыць,
што збягуцца кругі,
што, пачуўшы прыволле,
полем кінуцца коні
у разлогі спакою,
у сівыя снягі...

* * *

Зіма хоча хлеба сітнага,
ёй засекі усе —
адчыні.
А лету,
што ў кузні асілку,
варочацца ў гарачыні.
Прыслухайся:
з самай раніцы
да вечаровай расы
куюцца чатырохгранныя,
стозёрнавыя каласы.

* * *

Я ўжо буду люшку закладаць:
пасінела у шчытку вуголле.
Што табе мне сёння расказаць?
Чуеш,
          вецер ходзіць завуголлем,
ходзіць
          і шукае паначы,
і баіцца
          вецер заблудзіцца.
Хто захоча ветру памагчы
ад шалёнай сцюжы затуліцца?
Абтрасе заснежанае голле,
зноўку пойдзе сцежкі замятаць...
А ўдваіх, шчаслівыя, сядзяць
і глядзяць на сіняе вуголле.

* * *

Цямнее пушча за гарой...
Я ўсё збіраюся дайсці
да тых нязведаных мясцін,
каб там адчуць жывіцы пах
і стромкі вылет ад камля
зеленакрылага галля.
Незадаволенасць нашу.,.
Мне б толькі вырвацца за круг
на тую сінюю гару!

Там новы старт,
там новы бой,
там перамога над сабой.

* * *

Вялізнай птушкі шызае пяро
на бераг гнеўна выкінула мора.
Ляжыць пяро,
і столькі ў ім дакору
таму,
хто ў небе птаха не ўбярог...

* * *

Настоіла галінкі цішыня.
Імя тваё, Галінка,— «цішыня».
І звоніць ноч бярозамі да дня,
і ходзіць след баразнамі да дня.

Не ведаю, сустрэлася мне ты
ці ветлая такая, як і ты...
А можа гэта гулкія масты
чужое паўтарылі нам, масты.

Ды сэрца абмінае забыццё,
хоць блізкасці не будзе і ў паміне:
на тым краі маста — тваё жыццё,
маё ж і не дайшло да палавіны.

* * *

Я
бяду на сябе наклікаю.
І тады,
у трывозе,
хай
жураўлі нада мной курлыкаюць,
пакідаючы родны край.

І вялізным каўшом Мядзведзіцы
мне не вычарпаць гэты сум.
Як і верасень,
вечар вернецца,
ды на новую ўжо
расу.
А дарога —
такая вялікая.
Як, самотнаму, жыць цяпер?
Я
бяду на сябе наклікаю
ў доўгай ростані без цябе.

* * *

Недзе там —
цішыня і золакі
і азяблыя плечы Золушкі.
Гномы дзіўныя,
барадатыя
папрыціхлыя зоры кратаюць...
Я прашу,
мая Зола,
Золушка,
зберажы мне чакання золата,
каб сышліся сцяжыны росныя
у краіне дарог і ростаняў.
Там складзём непаўторныя казкі
з далячыняў,
даверу
і ласкі...
А Яга — злосці поўніць торбу —
мы не возьмем з сабой яе,
добра?

* * *

З маёй Радзімы вецер,
ты для мяне жаданы госць,
найдаражэйшы ў свеце.
З табой мы даўнія сябры,
мы з аднаго парога.
Ў табе звіняць мае бары,
гудзе мая трывога.
Ты калыхаў мурог густы
і мой наддзвінскі верас...
Сваім дарогам верыш ты.
А ў вяртанне
                    верыш?..

* * *

Трэба майму шчасцю
                    вельмі мала —
толькі б веру шчасце захавала,
каб з дарогі вера
                    не звярнула
і ў другога
                    веру удыхнула.
Бо калі я верай не надзелены,
то нашто і шчасце
                    і надзея.
Новы дзень —
                    каб ад турбот стамляцца,
раніца —
                    каб дужым прачынацца.

* * *

Назаву я цябе беларускаю,
сінявокую,
бела-русую.
Назаву цябе хмельным верасам
светлай радасцю,
шчырай вернасцю.
Будзе добра тады чакацца мне,
дзе цвітуць-буяюць
акацыі,
дзе ў песнях выслоўі дзіўныя,
дзе жыву табой
і Радзімаю.
Знаю — іншага не адбудзецца,
нашых рук цеплыня
не астудзіцца,
не сплыве ракетай да Месяца.
Адчыняюцца
весніцы.

* * *

Дзесьці ты за горадам жывеш,
бы ў затоцы
хрупасткі гарлачык.
Дзесьці ты за горадам ідзеш —
сінімі вачыма неба лашчыш.

Прашуміць яшчэ зашмат дажджоў,
і на тым канцы тугіх вясёлак
ты убачыш:
верасам прайшоў
нехта на асмужаны прасёлак.

Вас дваіх
атуліць далячынь.
А пакуль
адзін сінее плашчык,
а пакуль
чакаеш і маўчыш,
сінімі вачыма неба лашчыш.

* * *
Ідзём у край узгаданых дарог.
Нам зоркі ў небе,
як ільдзінкі, дзінькаюць.
Гарлае ноч на сплецены гарох,
як воўчае зяўро на маладзік.

Запамятаем ростані дарог
і зоркі,
што ў прыціхлым небе
дзінькаюць,
расяны, пераніцены гарох,
стручасты, зялянявы маладзік.

* * *
Ты чаму у мяне
няветлая?
Ты бабулі маёй не ведала,
ты ў бабулі маёй не абедала,
не сядзела ў яе на коленках
аніколечкі,
ані коленькі.
І не чула бабулінай казкі:
«Калацiла мышка кашку.
Г атаму пальчыку кашкі дала,
гэтаму й гэтаму...
А ты, маленькі,
схадзі ў крынічку па вадзічку.
Табе кашка на палічцы...»

* * *

…І цішыня стаіць вакол,
і цемра ад пустых акон,
і быццам на увесь прасцяг
у гэту ноч няма жыцця.
І толькі
            на кустах сляпых
святлее завільжалы пыл.
Яго з дарогі узнялі,
калі упоручкі ішлі…
Ці я адстаў,
                        ці я прыстаў,
ці позна на дарогу стаў?
А як жа можна не ісці?
Павінны зоры ўзысці!

* * *

Ніне

А ты ізноў,
                        як і твае равесніцы,
жадаеш незвычайнага ў жыцці.
Замнога не паспела шчэ дайсці
к дзявочым
                        зачаромхаваным весніцам.

Гады, гады…
І ўсё ж не вы прычынаю
памкнення і чакання на зямлі.
Нясуць,
            як журавінку,
                                    жураўлі
шчаслівыя
                        табе ключы.

* * *

Памяці Марыі Ш.

Вось зараз адчуць бы
такую ціш:
не сумную і не затоеную —
настоеную
красавіцкімі чарамі,
як застольная
пасля першай чаркі.
...Я супаставіў бы цябе, ціш,
з хвілінамі пасля спаткання,
з настроем пасля гаворкі,
такой непаўторнай,
апошняй...
Намнога пазней,
горкія,
лісты прынясе пошта.
Знямець бы
на камлі у парасніку,
хай мучыць душу знямога,
бо мне цішыні і радасці
на аднаго
замнога.

* * *

Знаеш, ты ў маю вернасць не вер.
Часта вернасць, як пошум здаля.
Як адданасць травы. Перамер,
пераваж чалавечы павер
і раскінь па прылесных палях.
Хай ён трапіцца пчолам, чмялям,
ў жаўруковыя гнёзды ўпляцецца...
Толькі ворагу я не аддам
свой давер і спагаду сэрца.

* * *

Лягу я на рукі медуніц —
хай праўюцца ў валасах густых.
А вятры далёкіх навальніц
зноў трывожаць неспакойны слых.

Так ляжаў,
                    не прапусціўшы танк,
хлопец,
          што прызвалі на вайну.
Захлынуўся ў полымі атак,—
для мяне ўбярог, юнак,
                                        вясну.

Ружавелі травы ад зары
і пагаслі,
          ціхія, у вачах...
Грозныя ваенныя вятры
доўга
          тут блукалі па начах.
Косы жаху косяць сенажаць...
Ці таму апалі травы ніц?
А на твары ўсё яшчэ дрыжаць,
ласкавеюць рукі медуніц.

* * *

Абуяла радасць неспакойная.
Просяць рукі,
                    просяць цеплыні.
Слухай, восень,
                    у дазоры воіна
клёнамі сваімі ахіні.

Гаварыць не трэба —
                              забаронена,
І спяваць не трэба,
                              зразумей,—
пранясі ты над маімі скронямі
ласку лістападаўскіх завей.

Хай усё па-над зямлёю сцішыцца,
хай вачэй зацепляцца агні:
чалавек,
прыклад рукою сціснуўшы,
слухае дыханне цішыні.

* * *

Акрамя аўтаручкі
у мяне аўтамат.
Г эта зброя звычайная
многае значыць.
Я жыву для Радзімы —
Радзімы салдат,
і жыву я для рыцарства —
рыцар удачы.
Я магу па загаду
пайсці і згарэць,
толькі б гора
Радзіму маю не сустрэла...
І яшчэ ёсць загады,
мне ў сэрцы іх мець
і ў паходах насіць,
як калёныя стрэлы.
Імі
гордасць сваю правяраю штодзень
і адданай
сыноўняй любоўю нямею,
прыглядаюся пільна
да добрых людзей
і вучуся у мудрых
разумнаму ўменню.
Столькі многа патрэб у жыцці —
не злічыць.
І каб дзень быў ад пошукаў цнотны,
гарачы,
і каб кожны салдатам Радзімы мог быць,
і шукальнікам,
рыцарам добрай удачы.

* * *

У цішыні
ёсць некалькі цішынь.
Ёсць цішыня
навіслай навальніцы,
гатовая маланкамі прабіцца
з нагружаных грымотамі вышынь.
ёсць цішыня
бальнічнага пакою
і цішыня
начы пасля ігрышчаў.
ёсць цішыня
перад чарговым боем
і цішыня
ачахлых папялішчаў.
У цішыні
вялікі змест ляжыць,
патрэбны для мяне
і непрыгодны.
І я пытаюся ў зямлі грымотнай:
— З якою цішынёю
будзем жыць?..

* * *

На шалях маіх далоняў -
промняў цяжар..
На шалях маіх далоняў -
ласкі пажар.
На шалях маіх далоняў -
радасць зямлі,
На шалях маіх далоняў -
зямлі сляза...
На шалях маіх далоняў -
«за»
і «супраць»,
«супраць»
і «за».

* * *

Паўзлі мы шурпатым снегам.
Імга засцілала неба.
Узводныя камандзіры
курсантаў у бой вадзілі.
Вось гэтым надвеснім раннем
і быў я смяротна паранены.
Цяпер я ляжу
забіты,
хоць хлопцамі не забыты.
І вечарам
з цяжкай стомай
адпраўлю я ліст дадому...
А покуль што,
да адбою,
забіты
законам
бою.

* * *

Хвіліна маўчання.
І струны застылі.
Хвіліна маўчання.
Калышацца полымя,
вечнае полымя.
І слухаюць помнікі
наша маўчанне.
Сівымі начамі
яны намаўчаліся,
хоць многа запомнілі,
сэрцы запоўнілі.
Хвіліна маўчання.
Як цяжка ўсё выканаць,
цяжка ўсё выказаць
і ўсё перадумаць
за гэта маўчанне.
Людзі ў атакі калісьці
хадзілі,—
людзі жыццё
за Радзіму аддалі,
за нашы дарогі,
за наша муЖанне...
Людзі, спыніцеся,—
хвіліна маўчання.

* * *

Карычневыя дрэвы
кроплямі і пупышкамі зацярушаны.
Кроплі становяцца важкімі
і грукочуць у каранях.
А пупышкі,
як шматступеньчатыя ракеты...
Спачатку стартуюць з глыбінь ствала,
потым — у карычневых кедах —
выбягаюць на ўзмакрэлае голлейка
і разрываюць абручы пупышак...
Лісцінaчкі, як выпускніцы,
што ўволю натанцаваліся
і выйшлі ў зялёную ноч,
лагодныя і зюклівыя...
Пазней — іх пакліча вецер,
сухмень абпаліць.
Ад пылу
і ад маланак
пасівее зялёнае вецце.
А карычневыя дрэвы
новай завяззю зацяжараць.
І зноў прагрукочуць кроплі
ва ўчэпістых каранях.

* * *

Маманта знайшлі!
Людзі, ведаеце, знайшлі маманта!
З зямлі выцягнулі такія біўні
і такое сцягно,
што ніводная істота,
апрача маманта,
цягаць гэтакія косці не згадзілася б
нават на аснове грамадскага даручэння.

Маманта знайшлі!
А можа гэты мамант
і не быў мамантам
хаця б таму, што калісьці
пра яго так ніхто не думаў.
А сёння —: знайшлі маманта...

І як жа дасюль
пра яго ніхто нічога не ведаў?
Ці не мог,
ці не хацеў ведаць?..

* * *

Узнімі павекі, сінявокая.
Бачыш, колькі ў Свіслачы агнёў?
Гэта Мінск з расчыненымі вокнамі
вечарам на бераг узышоў.
          Белая ад поўні Беларусь,
          сіняя ад знічак Беларусь...
          Вечарам на ціхія масты
          ставяць закаханыя пасты.
Мілая, паслухай голас горада,
гукі старажытных камяніц.
Іх жыццё, вялікае і гордае,
высветлена полымем байніц.
          Белая ад поўні Беларусь,
          сіняя ад знічак Беларусь
          верыла стагоддзямі баёў
          ў шчасце неадкрытае сваё.
Як нам сёння хораша над Свіслаччу
марыць пра каханне і жыццё.
Хай нам будзе шлях далёкі вызначай
плошчаю, дзе вечнасці касцёр.
          Белая ад поўні Беларусь,
          сіняя ад знічак Беларусь...
          Вечарам на ціхія масты
          ставяць закаханыя пасты.

* * *

Я не настолькі мала люблю Радзіму, каб
ахвяраваць яе шчодрасцю.
Зусім нядаўна мы палілі кастры Купалля.
Чуеце?
          Яшчэ пахнуць кветкі папараці!
І адмецiны вогнішч і дымы мазніц —
бы тыя рубчыкі на вушаку,
дзе бацька рабіў адмецiны
вёснам сына.
О, як імкнуся я на гэты парог!
І калі вечарэе —
                    зноў запальваюцца вогнішчы
на знатнай берагавіне.
Іх водсветы у сэрцы не пагаснуць.
...Гаючым цяплом
                    прамянець на зямлі
кастрам Радзімы,
кастрам Купалля,
кастрам любові і шчодрасці.

* * *

Край мой — сумленне маё...
(З народнай песні)

Край мой — маё сумленне,
радасць мая і гордасць.
Край мой — маё маленне
перад бядою і горасцю.

Поўніў сваю сявейку
зернем са шчодрых прыгаршчаў,
будзіў, развінаючы вейкі,
сваіх казакоў і прышлых.

Народу свайму паслугаю
жыў, працаваў і верыў:
суседзі яшчэ паслухаюць
І песні тваe прымераць.

Ты сёння на карце свету
зялёным кляновым лісцікам...
І новыя йдуць паэты
з адкрытае векам ісціны.



**ЗМЕСТ**

**Панізнік Сяргей.**

Кастры купалля. Мінск, Беларусь, 1967.
64 с. 4000 экз. 12 к.

На белорусском языке.
Сергей Степанович Понизник.
Костры Купалья.
Издательство «Беларусь». Минск,
Ленинский проспект, 79.

Рэдактар А. Кудравец
Мастацкі рэдактар Л. Прагін
Тэхнічны рэдактар В. Багрый
Карэктар Л. Тавачэнка
АТ 23337. Здадзена ў набор 21/XII 1966 г. Падп.
да друку 24/IV 1967 г. Тыраж 4000 экз. Фармат
60X 847з2. Папера друк. № 1. Фіз. друк. арк. 2.
Ум. друк. арк. 1,88. Уч.-выд. арк. 1,5. Зак. 1958.
Цана 12 кап. Паліграфічны камбінат імя Я.
Коласа. Мінск, Чырвоная, 23